ды такія газэты маюць клопат з тым, як зьмясьціць усе пісьмы. Таксама і беларускі селянін, як пазнае, што гэта сапраўды яго газэта, дык піша да яе і піша, бо мае аб чым пісаць. У гэтым зразуменьні трэба бачыць адзін з фактаў народнай сьведамасьці мас. Аб чым-жа да нас пісаць? Аб усім тым, што датычыць беларускага грамадзкага жыцьця той ваколіцы, дзе жыве карэспандэнт, г. зн. аб асьвеце беларусаў — сюды ўвойдзе школьнае пытаньне, пазашкольная асьвета, культурна-асьветныя арганізацыі, кніжкі, газэты, як іх чытаюць і г. д.; гаспадарчае жыцьцё: зямельнае пытаньне, заробкі сялян, падаткі, пазычкі, гмінныя рады і др.; палітычна-грамадзкае жыцьцё: пагляды сялян на палітычныя падзеі, дзейнасьць палітычных партыяў, арганізацыяў, пытаньне рэлігійнае, бытавое і г. д. Як бачым, трэба толькі глянуць кругом, дык паўстане вельмі шмат спраў, якімі трэба з намі дзяліцца, а мы падзелімся, друкуючы іх, з сотнямі іншых чытачоў.

Аднак мала яшчэ зрабіць „Шлях“ люстрам нашага жыцьця. У газэце будуць абгаварывацца пэўныя факты, будуць рабіцца тыя ці іншыя вывады. Рэдакцыя ня імкнецца ўскладаць гэты абавязак выключна на сябе. Хочам, каб наша газэта была газэтай народнай, г. зн. каб удзел у абгаварываньні ўсіх спраў, бралі найшырэйшыя слаі народу, як найбольш, так і найменш сьведамых. У гэтых адносінах і вёска і места маюць недахоп. Аб тым, што ў іх чутно, як жывецца і селянін і работнік пішуць шмат, але як направіць недамаганьні, як вырашыць тое ці іншае пытаньне—аб гэтым рэдка пішуць. Вось-жа ліквідуйце гэты недахоп, крытыкуйце нашы артыкулы, кажэце, як трэба пісаць ляпей. Гэты заклік, зразумела, скіровываецца, перадусім да найбольш сьвядомых беларусаў. г. зн. інтэлігэнцыі, кіраўнікоў і актыўных дзеячоў белар. арганізацыяў, студэнтаў і г. д.

Вось што пісаць. А як? Што да карэспандэнцыяў,—то бязумоўна толькі аб стаўшыхся фактах, ані прыбольшваць ані зьменшваць, так як было, або ёсьць. Падпісываць можна мянюшкай (псэўдонімам), але праўдзівае прозьвішча і адрэс трэба падаць для ведама рэдакцыі. Бяз гэтага карэспандэнцыі друкавацца ня будуць.

Што да артыкулаў, дык перадусім вымагаецца яснасьць і кораткасьць. Рэшта належыць да здольнасьцяў аўтара, якога прозьвішча і адрас рэдакцыя таксама павінна ведаць.

Хто захоча быць сталым карэспандэнтам, або супрацоўнікам „Шляху“ просім паведаміць нас лістоўна, або зьвярнуцца асабіста. Тады на гэту тэму можна будзе пагаварыць шырэй.

Рэдакцыя.

# Па шырокім сьвеце.

**Прэзыдэнцкія выбары ў ПАЗШ. — Урадавыя крызісы. — Падарожжы міністраў. — Заканчэньне штрайку ў Бэрліне. — Далёкі ўсход.**

Нядаўна ў ПАЗШ (Паўночна-Амэрыканскія Злучаныя Штаты, папулярна званыя проста Амэрыкай) адбыліся выбары. Яны прыцягнулі да сябе ўвагу ўсяго сьвету. І нам, беларусам, трэба аб гэтым нешта ведаць.

ПАЗШ — гэта краіна маладога, але надзвычай буйна і шпарка разросшагася капіталізму. Краіна гэтая мае найбольшыя ў сьвеце запасы зялезнай руды, вугля, нафты. Зямля дае надзвычайныя ураджаі пшаніцы, бавоўны і іншых культур. Таму і ня дзіва, што там паўсталі гігантычныя гарады, узрасла найвялікшая у сьвеце прамысловасьць, буйная земляробская прадукцыя. У параўнаўча вельмі кароткім часе ПАЗШ займаюць першае мейсца па прадукцыі зялеза, сталі, вугля, нафты, самаходаў, пшаніцы, бавоўны і інш. Аднак, як ведама, гігантычны рост капіталізму, ня можа абыйсьціся без такога-ж росту супярэчнасьцяў у ім. Лад гэты ня толькі мог разьвіцца дзякуючы натуральным вялікім багацьцям краіны, але і таксама найбольшай эксплёатацыі, якая знайшла свой яскравы выраз у сыстэме Тайлёра, дзе кожны рух рабочага так аблічаны, што ён ня можа змарнавацца на дарма. На гэтай аснове разьвіліся вялікія грамадзкія супярэчнасьці, паўстаў рабочы рух. Аднак ён у ПАЗШ не набраў яшчэ сталага сыстэматычнага характару ўпорлівай штодзеннай барацьбы. Рух гэты, дзякуючы сваёй моладасьці, зьяўляецца яшчэ рухам стыхійным, нероўнамерным, падатным да анархістычных адхіленьняў. Рабочыя часта яшчэ не змагаюцца проці ладу як такога, але проці тых ці іншых яго бакоў, ня раз усё-ж даючы доказ свайго гэроізму і ахвярнасьці. Тым вось і тлумачыцца, што рабочы рух ня творыць яшчэ такога моцнага самастойнага фронту, як гэта мы бачым у Нямеччыне. Таму-ж у ПАЗШ дамінуючую політычную ролю гуляюць дзьве неработніцкія партыі, якія пакалейцы кіруюць дзяржавай. Аднак крызіс, які перажываюць ПАЗШ і аб якім мы пісалі ў прошлым нумары, шмат што зробіць у палітычным укладзе сіл.

Магутная фабрычная прамысловасьц, банкі, картэлі і трэсты*) сканцэнтраваліся пераважна ў паўночнай частцы ПАЗШ, дзе паўсталі мільённыя гарады, як Нью-Ерк, Чыкаго, Вашынгтон, Філядэльфія і др. На гэтай частцы галоўную ролю адыгрывае рэспубліканская партыя стаячая на грунце моцнага, сцэнтралізаванага кіраўніцтва Штатамі і праводзячая ў інтарэсах прамыслоўцаў высокія мытныя стаўкі. Буйнае-ж земляробства з прадукцыяй пераважна пшаніцы і бавоўны знайходзіцца на поўдні і ў сярэдзіне ПАЗШ. Тут дзейнічаюць дэмакраты, жадаючыя большай аўтаноміі паасобным Штатам, зьніжэньня мытных ставак г. зн. патаненьня прамысловых тавараў для земляробаў, палажэньне якіх найлепей ілюструе арганізаваны імі штрайк на прывоз прадуктаў у гарады, які трэба было крывава зьліквідаваць. Абедзьве партыі стаяць на грунце сучаснага ладу, з той толькі розьніцай, што рэспубліканцы хочуць пагадзіць інтарэсы прамыслоўцаў з інтарэсамі фэрмэраў на карысьць першых, а дэмакраты інтарэсы апошніх з інтарэсамі першых, але на карысьць апошніх. Вось перадусім паміж гэтымі двума партыямі і разыгралася выбарчая барацьба 8 г. м.

Як ведама, тады адбыліся выбары новага прэзыдэнта, новай рэпрэзэнтацыйнай палаты (парлямант) $^1/_3$ часткі сэнату**). Выбары прэзыдэнта ў ПАЗШ адбываюцца пры помачы ўсенароднага галасаваньня, але не безпасрэдна. Усе 48 Штатаў выбіраюць сьпярша т. зв. электараў (выбаршчыкаў) адпаведна ліку прадстаўнікоў, якіх яны (Штаты) маюць кожны паасобку ў парляманце і сэнаце. Электары ўжо з пасярод сябе выбіраюць на 4 гады прэзыдэнта. Лік электараў быў вызначаны каля 50 гадоў таму назад суадказна ліку насельніцтва. У цяперашнія часы ў параўнаньні да прошлых шмат зьмянілася ў ліку насяленьня кожнага Штату, аднак лік электараў застаўся той самы. Гэтым і тлумачыцца той факт, што можна дастаць большы лік галасоў безпасярэдніх выбаршчыкоў, але менш электараў, што ня раз ужо было.

Да выбараў у г. г. выступілі 3 кандыдаты: цяперашні прэзыдэнт Гувэр ад рэспубліканскай партыі, Рузвельт ад дэмакратаў і Тома ў сацыялістаў. Выбары і там, як і ўсюды, мелі даволі востры прабег. Як пр. Гувэр, так і Рузвельт ня лічыліся ў славах пры контрагітацыі. І так першы закідаў другому, што ён разпашырае ў Амэрыцы той чад, які выходзіць з савецкага катла і які ужо распашырыўся па ўсёй Эўропе. Відаць гэтага чаду ня так ужо баяцца ў ПАЗШ, калі Гувэр пацярпеў паражку. Якой „папулярнасьцю“ карыстаўся прэзыдэнт Гувэр сьведчыць факт падгатоўкі на яго замаху і што ён ня мог нідзе і шагу ступіць без аховы тысячы тайных агентаў, аб чым яўна пісала замежная прэса.

Адным з галаўнейшых аргумантаў у перадвыборчай агітацыі былі мытныя стаўкі: — Бяда вам, казаў прэз. Гувэр, калі бяз мытных перашкод у край прыйдуць танныя тавары. Усе фэрмэры, усе рабочыя і прамыслоўцы прападуць, палажэньне амэрыканскага рабочага зьнізіцца да роўні японскага або кітайскага! — Высокія стаўкі — адказвае Рузвельт — нічога не памаглі. Амэрыканскі замежны гандаль скорчыўся на 60%. Іншыя дзяржавы адказалі тым-жа спосабам.

Большасьць амэрыканскіх выбаршчыкаў не зор'ентаваліся, што і той і другі маюць рацыю: адно не памагло і другое не паможа. Яны таму і не галасавалі проці ладу, але проці Гувэра і за Рузвельта. Мусіць гэты апошні ўжо да пэўнай меры прызнае сваю безраднасьць, калі кажа толькі тое, што „зробіць усё, што ў яго сілах, каб направіць сучаснае палажэньне“. Але памылкай было-б думаць, што выбаршчыкі галасавалі толькі проці Гувэра. Яны галасавалі таксама і проці сучаснага палажэньня. Калі-ж Рузвельт яго не направіць, невядома ці тады будуць галасаваць другі раз на Гувэра..

І так прэзыдэнт Гувэр атрымаў значную паражку. За яго было аддана 10.705.000 галасоў, што дало толькі 59 электараў. Рузвельт атрымаў 14.627 000 і 472 электары. Гэтую параўнаўча невялікую розьніцу ў галасох і вялікую ў электарах можна вытлумачыць успомненай асаблівасьцю амэрык. выбарч. сыстэмы. Сацыялістычны кандыдат Тома атрымаў $1^1/_2$ мільёны галасоў. Такі прыблізна рэзультат і ў выбарах да парляманту і сэнату. Дэмакраты атрымалі абсалютную большасьць.

Такім чынам адбыўся маленькі пераварот. Аднак зьменаў у палітыцы ПАЗШ у хуткім часе

*) Арганізацыі прамыслоўцаў.

**) Паводле канстытуцыі ПАЗШ кожныя 2 гады $^1/_3$ частка сэнатараў мусіць быць перавыбрана.

К. Р.

# 50-годзьдзе народнага поэта—Янкі Купалы.

Янку Купала—песьняру нашага нацыянальна-адраджэнскага руху, творцу скарбаў беларускай народна-вызваленчай поэзіі споўнілася 50 год. Беларускія народныя масы ў ва ўсіх кутках свае бацькаўшчыны і сьвядомае беларускае грамадзянства, раскіданае па чужых землях, абходзяць гэты юбілей, выкарыстоўваючы яго для распаўсюджваньня і прысваеньня сабе тых ідэяў, якім служыў і служыць наш пясьняр. У Менску, паводле прэсы, адбылася ўрачыстая акадэмія пасьвечаная Купале, дзе поэта віталі прадстаўнікі ўсіх культурных, гаспадарчых і палітычных установаў і арганізацыяў і дзе юбіляр гаварыў аб сваёй дзеяльнасьці, аб сваіх папярэдніх „недахопах і хібах“ і аб тым, што ён і надалей застаецца верны свайму ідэалу—служэньню асноўным масам беларускага народу. У Дзьвінску шчырае беларускае грамадзянства нядаўна таксама наладзіла юбілейны Купалаўскі вечар, дзе была разгледжана творчасьць поэта.

Даваенныя творы Купалы—гэта голас мільёнаў беларускага народу, стогнучага пад сацыяльным і нацыянальным гнётам абшарніцка-царскай Расеі. У яго поэзіі, пачынаючы ад „Жалейкі“ і канчаючы на „Спадчыне“, як у люстры адбіты той жудасны стан, у якім знаходзіліся шырокія масы рабочых і сялян на беларускіх землях. Але песьні Купалы—гэта ня толькі люстра, ня толькі стогн, ня толькі адбітак—гэта адначасова заклік да выхаду з жудасу, магутны кліч да барацьбы за нацыянальна-адраджэнскія ідэалы. — „Годзе млеці ў паняверцы“, „На сход на ўсенародны, грозны, бурны сход ідзі аграблены, закованы народ“!—кліча Купала і гэты кліч рэхам разносіцца па ўсёй нашай зямлі. Паваенная творчасьць песьняра зьвязана сьцісла з высілкамі часткі нашага народу ў-ва Усходняй Беларусі пабудаваць сваё ўласнае жыцьцё уласнымі рукамі на новых грамадзкіх падставах. Поэт і надалей застаўся выказьнікам думак, настрояў, творчасьці і барацьбы масаў беларускага народу. Тытул народнага поэта, які мае ад 1926 году*)—гэта тытул яго сталага змаганьня, сталай працы з шырокімі пластамі нашага народу. Янка Купала зьяўляецца аднaчасна сябрам найвышэйшай культурнай установы ў БССР—Беларускай Акадэміі Навук.

У папярэдніх творах нашага песьняра можна, праўда, спаткаць часта ноткі пэўнай нацыянальнай абмяжаванасьці, ноткі па сваёй сутнасьці чужыя асноўным масам народу, якія, трэба сказаць, зьяўляюцца натуральным вынікам тых часоў і тых варункаў, у якіх жыў і тварыў Купала. Гэта нацыяналістычныя парывы, народжаныя сьвістам царскага бізуна над сьпінамі прыгнечанага беларускага народу. Сяньня аднак поэт зразумеў, што абмежаванасьць гэтая ня зродная шырокім слаём беларускага народу, што яна супярэчыць праўдзівай нацыянальна-адраджэнскай ідэі, не пагаджаецца з яго ўласнымі поглядамі. І Купала ня толькі зразумеў, але сказаў аб гэтым на ўвесь сьвет:

„Былі недахопы і хібы
На шляху да новай сялібы
Да новых расквечаных дзён,
І крыўды былі не малыя
Угоды, нягоды—у былыя.
Але ўсё мінула як сон.
Сягоньня іначай, іначай,
І сэрца ня ные,
І вочы ня плачуць,
І хочацца жыць і тварыць
Для новых расквечаных дзён“.

Некаторыя колы з пасярод беларускага грамадзянства, няспрыяючыя нашаму запраўднаму нацыянальна-адраджэнскаму руху хапаюцца за старыя агранічанасьці, чужыя па сваёй сутнасьці сяньня для Купалы і стараюцца прадставіць усю творчасьць поэта ў духу варожым для працоўных пластоў беларускага народу, што быццам уся творчасьць Купалы „грунтуецца на вялікіх агульна-людзкіх ідэалах, абвешчаных яшчэ Вялікай Францускай Рэвалюцыяй — ідэалах Волі, Роўнасьці і Брацтва ўсіх людзей**). Як вядома пад гэтымі шумнымі лёзунгамі быў збураны стары фэодальны лад і на яго мейсца прыйшоў лад новы, які пануе сяньня ў большасьці дзяржаў. Пад Воляй, Роўнасьцю і Брацтвам схаваўся шовінізм і нацыяналізм найбольш моцных дзяржаў, якія прызналі сябе Вольнымі, Роўнымі і Братамі ў панаваньні над слабшымі народамі, як Індыя, Кітай, Манджурыя і г. д. Колы гэтыя прыкладаюць усе высілкі, каб у сваіх „ацэнах“ творчасьці Купалы зацямніць народна-адраджэнскую старану яе, прадставіць яе ў сьвятле, адпавядаючым заможным пластом нашага грамадзтва і зрабіць Купалу песьняром тых слаёў беларускага народу, якіх рэпрэзэнтуюць гэтыя „крытыкі“. Больш таго, на 50-угодкі Купалы „Беларускі Звон“ і „Крыніца“ паднясьлі песьняру прэзэнт, кажучы, што поэт наш піша сяньня толькі пад страхам рэпрэсіў, пад прымусам „маскоўскіх камуністаў“.

50 гадовы юбілей Янкі Купалы для беларускіх народных масаў павінен стацца мамэнтам для зазнаямленьня з яго творчасьцю, з яго праўдзівымі ідэаламі. Гэта будзе найлепшай пашанай для нашага народнага поэта.

*) Тытул народнага поэта, забясьпечвае Янцы Купале дажывотную пэнсію.

**) А. Луцкевіч. „Янка Купала, як прарок адраджэньня“.

